# Фотовыставка «Счастливые лики семьи. Свадебная мода и традиции Брестчины»

**В рамках проведения мероприятий, посвященных празднованию 100-летия со дня образования органов ЗАГС Республики Беларусь, в историко-мемориальном музее «Усадьба Немцевичей» сотрудниками отдела ЗАГС Брестского райисполкома и музея «Усадьба Немцевичей» была организована фотовыставка «Счастливые лики семьи. Свадебная мода и традиции Брестчины».**

Торжественное открытие уникальной фотовыставки состоялось в субботу 2 сентября. Право быть первыми гостями и сфотографироваться на фоне экспозиций было предоставлено паре, регистрация брака которых прошла в этот день в «Усадьбе Немцевичей». Кто знает, может их свадебные фотографии украсят подобную фотовыставку через 100 лет! Счастливые молодожены Климко Игорь и Виолетта, а также их гости с удовольствием ознакомились с фотографиями. Свадебные фотографии прошлого столетия никого не оставили равнодушными.



Организаторы выставки постарались с помощью фотоснимков рассказать посетителям, как выглядели молодожены Брестчины в разные исторические периоды. Со снимков зрителям улыбаются молодожены далеких 1920–1930 гг., молодые люди, решившие соединить судьбы, несмотря на войну и сложные послевоенные годы, счастливые пары 1950–1980 гг.

Организаторы благодарят партнеров, которыми выступили мастерская фотоисторий «$H_2O$» (фотографы Олег Полищук и Ольга Ухналёва) и салон печати «Сантиум». Получился интересный и уникальный, по-настоящему народный, проект, ведь главная цель выставки — подарить зрителям положительные эмоции.

Как оказалось, выставка вызвала не только яркие эмоции, но и произвела своеобразные открытия. Так, одна из посетительниц, гражданка США, узнала на одном из старых свадебных снимков в экспозиции музея свою дальнюю родственницу. Таким образом, цепочка событий и людских судеб продолжилась в пространстве и времени...

*Катерина ОГИЕВИЧ*

## Ціна ХУТАРАНКА

# Штэр

**Аповед пра Аляксея Пятровіча ШТЭРА, статскага саветніка, памешчыка, гаспадара маёнтка і цаглянага завода у вёсцы ЧЭРНІ**

— Панскі фальварак у Чэрнях калісьці стаяў далёка за сялом на самым высокім і прыгожым месцы, адкуль было відно сяло і яго краявіды. Будынак маёнтка патанаў у зарасніках бэзу, чаромхі і шыпшыны.

Сам фальварак часта пераходзіў з рук аднаго ўладальніка ў рукі другога. Апошнім яго гаспадаром быў стацкі саветнік Штэр Аляксей Пятровіч. Зямля ў Чэрнях была не вельмі ўрадліваю. Панская, як заўжды гэта бывае, была лепшай, а сялянская — пясок сыпучы. Таму прыбытак з зямлі быў не вельмі багаты.

Са змяненнем міждзяржаўнага акружэння царскай Расіі, нечакана пайшлі вялікія перамены і на нашай зямлі. На заходніх межах для імперыі патрабавалася вялікае і сучаснае для той эпохі збудаванне для арміі. Па гэтай прычыне і была спраектавана магутная і непрыступная фартэцыя ў Берасці, якая бы амывалася з усіх бакоў водамі Мухаўца і Буга...

*«Першы камень яе быў закладзены ва ўрачыстых абставінах 1 чэрвеня 1836 года.*

*Але будаўніцтва цытадэлі для старавечнага Берасця стала драматычнай з'явай. Горад быў заснаваны 800 гадоў таму назад і знаходзіўся ў паміжрэччы Мухаўца і Буга, нібы на востраве. У ім налічвалася больш за дзесяць тысяч жыхароў. Па праекту там павінна была размясціцца крэпасць.*

*Таму ўсе вуліцы Берасця з ўнікальнымі будынінамі, якія сімвалізавалі багатую культуру і рэлігійныя традыцыі горада, яго рамесніцкі і гандлёвы цэнтр — усё*

Фрагмент помніка Штэру ва двары Чэрнінскай царквы



*было прыгаворана рускім царом да пагібелі.*

*З пачаткам зямельных распрацовак, стары горад паступова сціраўся з зямлі. Усё Берасце было перанесена на тры кіламетры далей на ўсход.*

*Гіганцкая будоўля працягвалася мноства гадоў. На падыходах да фартэцыі, на адлегласці (6–7км) будаваліся фарты, а яшчэ далей — дзоты. Праз нейкі час праводзілася рэканструяванне пабудаванай часткі крэпасці. Адным словам, у Берасці кіпела бясконцая будоўля, для якой патрабавалася цэгла, і ў вялікай колькасці...»* [З кнігі «Брэсцкая крепасць. На вятрах гісторыі»].

Многія ўладальнікі фальваркаў, якія знаходзіліся побач з Берасцем, і на чыіх землях былі вялікія радовішчы гліны, узяліся за саматужны выраб цэглы. Гэтая справа давала вялікі прыбытак і несла багацце выраблядьнікам.

За гэтую выгадную вытворчасць узяўся і наш Чэрнінскі памешчык Штэр Аляксей Пятровіч.

Па аповядам старажылаў, на тэрыторыі фальварка быў збудаваны саматужны цагляны завод. Прыблізнае месцазнаходжанне яго было за цяперашнімі жывёлагадоўчымі фермамі. Гліна капалася, мабыць, у тым месцы, дзе зараз стаяць два «першыя» калгасныя двухпавярховыя дамы. Там невысыхаемая нізіна. Нават, летам у ёй стаіць вада. (Гэта на «хутарах» — другой частцы Чэрняў. Той, што за калгасным дваром).

Пры капанні, гліна загружалася ў невялічкія тачкі і вывозілася работнікамі наверх. Далей яе везлі на пляцоўку да печаў, дзе выраблялiся цагляныя брыкеты. Там гліну вывальвалі ў шырокую і не вельмі глыбокую яму. Туды дабаўляўся жоўты пясок і вада. Маладыя мужыкі і хлопцы, закасаўшы калошвы нагавіц вышэй каленяў, заходзілі ў яму і пачыналі мясіць тую гліну нагамі. Каб было весялей, станавіліся ў кружок, клалі адзін аднаму на плечы рукі і так хадзілі, спяваючы песні.

Калі месіва было гатовым да вырабу цэглы, яго рыдлёўкамі загружалі ў стандартныя формы, і сушылі. Праз колькі часу, брыкеты высыхалі да патрэбнай вільгаці. Па тэхналогіі, у такім стане іх загружалі на шырокіх, драўляных лапатах, нібы боханы хлеба, на абпальванне ў печы.

З печаў даставалася ўжо гатовая, чырвонага колеру цэгла, якая адразу ж грузілася ў конныя ваганеткі і адвозілася ў на будаўніцтва крэпасці.

Акрамя цэглы, Штэрам актыўна прадаваўся жвір, які патрабаваўся на будоўлю дзотаў, фартоў і другіх ваенных умацаванняў. Яго капалі ў кар'еры, які захаваўся да нашых дзён, і знаходзіцца на падыходзе да калгасных механізатарскіх майстэрань, што абапал вуліцы Брэсцкай. Адтуль браўся жвір і пры Польшчы на ўкладанне «бруку» з Чэрняў на Брэст.

Па аповяду Кавенька Мікалая Рыгоравіча, пры польскім часе сялянская зямля, на якой былі радовішчы жвіру (Чэрні і Косічы), выкуплялася ў гаспадароў, або бралася ў арэнду на дзесяцігоддзі. Пасля чаго адтуль пачынаў весціся актыўны гандаль жвірам. Да распрацовак пракладваліся вузкакалейкі, па якіх ваганеткамі жвір вывозіўся да чыгункі, дзе яго перагружалі на чыгуначныя платформы і адпраўлялі да месца назначэння.

Штэраўская цэгла да забудоўлі горада і крэпасці таксама дастаўлялася коннымі ваганеткамі па вузкакалейцы, якая была пракладзена, ад цаглянага завода ў напрамку горада, цераз «Ласкі» і далей на Задворцы.

Памешчык плаціў за працу сялянам, якія працавалі на вырабе цэглы, залатымі чырвонцамі.

— Адкуль я гэта ўсё ведаю? — запытаецеся вы.

— Ведаю з аповяду матулі. Бо яе бацька, а мой дзед, Ботух Емельян Андрэевіч, яшчэ юнаком працаваў у Штэра на яго цагляным заводзе, зарабляючы грошы на свой будучы шлюб.

Аднойчы ў летнюю спякоту згарэла вёска. Здарылася тады так, што спалала і царква. Усёй грамадой людзі адбудоўвалі яе, як маглі. Сваю долю ў святую справу ўнёс і Штэр. Ён ахвяраваў цэглу з свайго завода на царкоўную агароджу.

У падзяку, калі памешчык памёр, яго пахавалі ля царквы, як годнага гаспадара фальварка, як гаспадара нашай Чернінскай зямлі. На месцы пахавання быў зроблены склеп, а зверху ўстаноўлены помнік з мармуровай плітой.

З нашчадкаў у Штэра была толькі дачка. Пасля смерці Аляксея Пятровіча, у 1901 годзе, гаспадаром фальварка стаў зяць.

Але «Прымак — ён і ў багатых прымак!»

Яго мэта — пражыць! А не ствараць клапатліва...

Зяць быў вялікім гулякай і зусім не рупіўся пра гаспадарку. Да таго, у адзін выдатны вечар прайграў фальварак у карты. Пасля гэтага, уся Штэрава маёмасць была апісана і прададзена з «малатка».

Зямлю вакол маёнтка чыноўнікі разбілі на ўчасткі і таксама выставілі на таргі. На аўкцыёне тыя кавалкі купляліся багатымі. Карацей кажучы — у каго былі грошы. Пакупнікі наехалі, нават, з–за Буга.

Тады і быў прыдбаны ўчастак зямлі ў Штэраўскім парку палякам Жабіцкім, які потым там і пасяліўся са сваёй сям'ею.

Прыдбаную на аўкцыёне зямлю чэрнінцы паміж сабою называлі «купчай». Уся ж астатняя панская зямля была падзелена паміж сялянамі, і яе народ назваў «надзельнай».

Аляксей Пятровіч Штэр, як і ўсе ўладары—папярэднікі, клапаціўся аб прыгажосці і ўпарадкаванні сваіх уладанняў. Усе прасёлачныя дарогі і шлях на Берасце былі абсаджаны вербамі. А вуліцы сяла і навакольных вёсачак — бэзам.

Чэрнінскі старажыл Несцярук Мікалай Кузьміч (вул. Брэсцкая, 2) расказваў, што ў пасадцы тых прыдарожных верб прымаў удзел і ягоны прадзед.

Будынак Штэравага маёнтка стаяў там, дзе зараз знаходзяцца сховішчы для гародніны. Гэта быў заможны і культурны фальварак. Вакол яго быў разбіты парк з сажалкай. Усе сцежкі ў ім і алеі былі абсаджаны вербамі і бэзам.

Ад самага двара, у напрамку да царквы, была высаджана алея з ліп і бэзу, якая існуе і зараз.

Усе чэрнінскія старажылы помняцць яе чысцюткай і дагледжанай, бо ў іх дзяцінства і маладосць «алейка» была — сімвалам Чэрняў!

Так, як у Цюхінічах і Вістычах — «мост»!

У нядзелю ўсе маладыя чэрнінцы хадзілі на алейку на шпацыр. Туды забягалі і дзіцячыя кампаніі, была і старэйшая моладзь. Парамі прагульваліся жанатыя.

Нават, у летнюю спёку пад старадаўнімі ліпамі, як у тунэлю, была прыемная прахалода. Усе жыхары, ад малога і да вялікага, ганарыліся гэтай прыгажосцю свайго сяла, зберагалі яе для сябе і для сваіх нашчадкаў.

Адна за другой тут праходзілі войны, паўстанні і рэвалюцыі. Змяняліся ўлады, якія неслі з сабою свае сцягі і гербы. Захопнікі ўсталёўвалі свае парадкі і законы, навязвалі сваю мову і звычаі.

Чаго і каго тут толькі не было?!

Але гэта ўсё перажылі нашыя Чэрні...

Калі ў 1941 годзе ў сяло прыйшлі нямецкія заваёўнікі, то першае, што яны зрабілі — зруйнавалі магілу Штэра, шукаючы там скарбы.

Пачатак 60-х гадоў можна назваць часам чорнае смуты і вар'яцтва, якое насілася начамі па нашай зямлі, выварочваючы і спілоўваючы перад сёламі крыжы-абярогі. Чэрнінскія актывісты таксама не адсталі ад моды і знішчылі ўсе надмагільныя помнікі ў царкоўным двары.

Крыжы і агароджы пахаваных там святароў былі жалезнымі. Актывісты вырвалі іх з зямлі і здалі на металалом... Яны спрабавалі зруйнаваць і Штэрава надмагілле, але тут, мабыць, не хапіла моцы. Бо помнік так і застаўся стаяць сярод кустоўя бэзу. Праўда, ужо без мармуровай дошкі і без агароджы.

Помнік Штэра, як сімвал былой магутнасці Чэрняў, стаяў у зарасніку бэзу, нават тады, калі была зруйнавана царква, і на месцы яе была арганізавана спартыўная пляцоўка для Чэрнінскай васьмігадовай школы. У вянку старавечных ліпаў і каштанаў яна служыла вучням, пакуль не была пабудавана новая дзесяцігодка.

Увесь гэты час помнік Штэра ахоўваў Чэрні ад усякай бяды.

Калі ў 1986 годзе васьмігадовая школа пераехала ў новы шыкоўны будынак дзесяцігодкі, уся яе былая сядзіба стала безгаспадарчай.

Менавіта ў той час распачалася ў сяле прыватная забудоўля новага мікрараёна (што за царквою) перасяленцамі з-пад Камянца, Пружанаў і другіх мясцін. Па начах смелыя і рукастыя забудоўшчыкі расцяглі на свае патрэбы былую царкоўную агароджу.

Але помнік Штэру працягваў яшчэ стаяць пад старавечнымі ліпамі паміж бэзу.

Яго зцерлі з зямлі ў час будаўніцтва новай царквы. Па загаду святара быў падагнаны бульдозер, выкапана глыбокая яма, і Штэрава надмагілле знікла ў ёй.

«Але Бог ёсць на свеце!»

Бо якімсьці цудам галава помніка засталася і доўгі час ляжала ля агароджы царквы...

Такія адносіны да мінулага сяла, да яго гісторыі падштурхоўваюць да цяжкага роздуму і сумненняў:

— А мо, на свеце і няма нічога святога?!

— Як можна ўцяміць такое глумленне над сваёй гісторыяй?!

Думаю, што пры пахаванні Штэра, як годнага чалавека, вялікі хор вернікаў спяваў яму «Вечную памяць»... Таму, бываючы ў царкве з запіскамі аб упакаенні душаў, я заўжды запісваю імя Аляксея Пятровіча...

Цяпер на царкоўным двары, на месцы захавання Штэра, у засуху жоўкне трава. Яна падказвае прыхаджанам, што хай не помнік, а хаця бы звычайны валун з дошкай і надпісам на ёй: «Штэр», павінен ляжаць на яго магіле. Гэта, каб не таптаўся па ёй народ у час хрэснага ходу вакол царквы...

# Прыкладанне камэня

**До нашего времени в Мотоле сохранилась уникальная традиция «Прыкладанне камэня» во время празднования Михайловских Дедов. В этом году Михайловские Деды отмечали 18 ноября.**



Начинаются празднования Михайловских Дедов в пятницу вечером. В доме готовят постный ужин. За столом собирается вся семья. Обязательные блюда на «дедовском» ужине — хлеб, кутья, капуста с грибами или щавель с рыбой, каша «просяная», компот. В начале ужина зажигают свечу, которая должна гореть в течение всей трапезы. Ужин начинается с молитвы и приглашения Дедов за стол. Для этого существуют определенные высказывания: «Помолымса за усих умэршых: за старэнькых, за малэнькых, за знаюшчых и нэзнаюшчых. Прыходьтэ уси на вэчэру».

После молитвы семья садилась за стол, глава семьи черпал кутью первым, потом хозяйка и все остальные. Пока горела свеча, семья быстро ужинала и уступала место Дедам: «Свічка горыть, мы устаем, им мисте даем». По завершении ужина свечу гасят. Еду на столе обязательно оставляют на ночь. На следующий день (после службы в церкви) стол накрывался заново. Пищу готовят свежую. Обед мог быть не только постным, но и с мясом.

Утром все шли на поминальную службу в церковь. Те, у кого в этом году умер кто-то из родственников, несли камни, тщательно завернутые в полотенца или салфетки.

В церкви камни выкладывают на пол следующим образом: с левой стороны кладут камни, приготовленные для покойников-женщин, а с правой — для покойников-мужчин. После панихиды батюшка при зажженных свечах читает молитву и освещает камни.

Освященные камни потом несут на кладбище и прикладывают за крестом, в голове.

Если после умершего не прошло сорока дней, то камень кладут возле могилы близкого родственника, и только на сороковой день переводят к кресту покойного.

Местные жители верят, что душа на Деды прилетает посидеть и отдохнуть на том камне: «На Деды или как службу (панихиду) правят, то душа прилетает, и садится на тот камень».

*с сайта: http://motal.museum.by*

Анатоль БЕНЗЯРУК

# «Мама, мы тваю Радзіму вызваляем»

*Дарожны нарыс*

**У нас такі звычай, і было яно, і ёсць, і будзе. Як чалавек жыве, працуе, а яго нават не бачаць і не знаюць... Калі ж памрэ, сотні гадоў ёсць успамінанне, пішуць аб ім, чытаюць аб ім, шукаюць яго: дзе ён, о.**

***Мікола Тарасюк са Стойлаў.***

## Як можна рассмяшыць Бога

*(замест уступу)*

Яшчэ нядаўна і я смяяўся над аматарамі «мыльных опер», індыйскага кіно і перадачы «Чакай мяне».

Зараз ужо не смяюся, бо ведаю дакладна: хочаш развесяліць Бога — раскажы яму пра свае планы.

Журналістам падабаецца рубрыка «Пісьмо паклікала ў дарогу». Найчасцей клічуць лісты-скаргі, лісты-просьбы або лісты-кляўзы.

У гэты раз усё было інакш.

...Іх было тры: два лісты-надзеі і ліст-падзяка — ад братоў Мацкевічаў. Пара салдацкіх трохкутнікаў прыйшлі з вайны, трэцяе пісьмо — з 1993 года.

Помнік у Драмлёва



Даўняя справа. Але ж настолькі кранулі радкі, што вырашыў: трэба знайсці час, каб сустрэцца і паразмаўляць з аўтарам апошняга ліста.

Тады мне было яшчэ няўцям, што ўжо пачынаю пакрысе смяшыць Бога...

## Ліст пра брата

*Брат Валодзя быў добрым, жыццярадасным чалавекам. З малых год дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Калі немцы пачалі гнаць моладзь у Германію, бацька адвёз сына не на зборны пункт, а ў лес, дзе той доўга хаваўся.*

*Як паблізу з'явіўся партызанскі атрад імя Лазо, Валодзя далучыўся да народных мсціўцаў, прыбавіўшы сабе два гады, а пасля вызвалення пайшоў з Чырвонай Арміяй.*

*З фронту прыйшлі два лісты. У адным ён пісаў: «Мама, мы тваю Радзіму вызваляем...»*

Васіль Мацкевіч, студзень 1993 года.

## У ліпені сорак чацвёртага

У тым агнявым месяцы, калі разгарнулася аперацыя па вызваленні нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Чырвоная Армія імкліва рухалася па Берасцейшчыне.

14 ліпеня вайсковыя фарміраванні І-га Беларускага фронту магутным ударам авалодалі Пінскам, у наступны дзень ачысцілі ад ворага Бярозу, 16 ліпеня занялі Пружаны і Іванава, а 17-га — Драгічын.

Родная вёска Мацкевічаў Старое Клемянцінава тады ўваходзіла ў Драгічынскі раён. Пасля выгнання акупантаў з ягонай малой радзімы Уладзімір Мацкевіч стаў радавым 369-га палка 212-й Крычаўскай стралковай дывізіі, якая імкліва наступала ў заходнім кірунку.

Ноччу 18 ліпеня передавыя часці І-га Беларускага фронту наблізіліся да тэрыторыі Жабінкаўскага раёна. У эфір паляцела заўчаснае паведамленне «Саўінфармбюро»: «Савецкія рухомыя атрады выбілі немцаў з вузлавой чыгуначнай станцыі Жабінка».

Аднак напружаныя баі на нашай зямлі йшлі яшчэ тры доўгія дні. Толькі апоўдні 21 ліпеня чырвонаармейцы зламалі нарэшце варожае супраціўленне пад Жабінкай. Гэтая дата традыцыйна святкуецца ў горадзе як дзень вызвалення.

Адным з тых, хто ўлетку 1944 года змагаўся за нашу свабоду, быў 19-гадовы Уладзімір Мацвеевіч Мацкевіч. Менавіта тады ён напісаў: «Мама, мы тваю Радзіму вызваляем...» Бо ведаў, што Ксенія Кірылаўна нарадзілася ў Жабінкаўскім раёне, у Драмлёве. Аднак яму не суджана было даведацца, што матулінай роднай вёскі ўжо не існуе на зямлі. Сяло разам з яго жыхарамі знікла ў агні... Яно засталося толькі на даваенных тапаграфічных картах, якімі карысталіся вайскоўцы і ў сорак чацвёртым.

Праз некалькі дзён, як стралок Уладзімір Мацкевіч напісаў свой ліст, ён склаў галаву ў баі пад вёскай Кошалева Брэсцкага раёна. Палявая пошта неўзабаве данесла ў родную вёску кароткія весткі ад салдата і пахавальны ліст па ім...

## Будзем шукаць жывых

Зараз Клемянцінава ў складзе Іванаўскага раёна. Таму папярэдне вырашыў пазваніць у Іванава. Спадзяваўся адшукаць хоць некага з родных Уладзіміра Мацвеевіча. Расказаў гэтую гісторыю тагачаснай старшыні Іванаўскага раённага Савета дэпутатаў Святлане Іванаўне Майсейчык. Яна абяцала дамагчы высветліць лёс Мацкевічаў і раптам перапытала:

— У якой дывізіі, кажаце, ваяваў Уладзімір?

— У 212-й Крычаўскай.

— Мой бацька таксама быў у 212-й... Магчыма, яны й сустракаліся, ведалі адзін аднаго (землякі ўсё ж), — сказала Майсейчык і пасля кароткай паўзы дадала: — На жаль, тата амаль дзесяць гадоў як памёр... Добра, будзем шукаць жывых.

Яна патэлефанавала праз некалькі тыдняў:

— Навіны дрэнныя: усе браты і сёстры Уладзіміра Мацкевіча таксама ўжо на кладах...

Быў лістапад 2013 года. На той час я ўжо перастаў смяяцца над аматарамі «мыльных опер».

І пачаў збірацца на Іванаўшчыну.

## Два Клемянцінавы

На карце вёска адна. Для мясцовых іх дасюль дзве: Клемянцінава Старое і Клемянцінава Новае.

Вёскі побач, але спрадвеку паміж імі пралягае нейкая мяжа. Яна нябачная, але адчувальная. Царквы ў Клемянцінаве ніколі не было. Таму «стараклемянцінаўцы» спрадвеку ходзяць у старажытную Свята-Міхайлаўскую, у Асаўцы, што ў суседнім Драгічынскім раёне. «Новаклемянцінаўцы» перавагу аддаюць больш новай Крыжаўзвіжанскай —

у Варацэвічах (на радзіме мастака Напалеона Орды). Могілак таксама пара: старыя і новыя...

Разам са старшынёй мясцовага сельвыканкама Вольгай Качановіч мы ехалі на старыя. Насустрач рухаліся мужчыны. Вольга Іванаўна пабачыла іх і сказала:

— Вунь нашы касцы вяртаюцца. Значыць, пагост ужо абкасілі. Мы зараз вакол могілак новы плот гародзім, прыбіраемся — усё сваімі сіламі. Цяпер позняя восень, галоўныя працы ў полі скончыліся, вось у людзей і знайшоўся час, каб гэтай патрэбнай справай заняцца.

Усё ж як жыццё змянілася! Як пачуў пра касцоў, перад вачыма паўсталі мужыкі ў світках ды з косамі. Калі здалёку не пабачыў у руках косаў, вырашыў, што гэта жарт. І толькі зблізу зразумеў, што вяскоўцы нясуць... электракосы.

Староста вёскі Валянціна Сцяпанаўна Федзюковіч раптам уздыхнула:

— ...А мы на яго так спадзяваліся...

Гэта было сказана пра Васіля Мацкевіча — аўтара ліста пра старэйшага брата, які назаўжды застаўся маладым.

У чым былі спадзяванні? Васіль Мацвеевіч працаваў у сталіцы («быў начальнікам па вадзе», як гавораць тутэйшыя). Ён дапамог заасфальтаваць вясковую вуліцу, падтрымаў ідэю абнаўлення старых могілак. Планаваў капітальна адрамантаваць бацькоўскую хату, хацеў сюды вярнуцца век дажываць. Так, меў планы на жыццё, а праз колькі дзён тое жыццё абарвалася. Планаваў вярнуцца і — вярнуўся...

Праз хвіліну мы стаялі ля трох мармуровых помнікаў: Васіля Мацкевіча і ягоных бацькоў — Ксеніі Кірылаўны і Мацвея Васільевіча. Камяні, вядома, былі маўклівыя — толькі сухія лічбы: пачатку і канца...

## Здымак з фотаальбома

— Я — Лялько: як лялька, мяне і ў школе гэтак дражнілі, бо расточку была невялічкага і прозвішча такое мела. Як пайшла за свайго Косціка, прывёз мяне, маладзенькую, у Клемянцінава, стала Мацкевіч. Мой Косцік з Васілём былі стрыечнымі братамі. Яны вельмі сябравалі, — гаварыла Галіна Сяргееўна Мацкевіч.

Размаўлялі ў яе хаце, што па-суседству з пустым домам тых, хто ўжо на могілках.

Я спытаў:

— Вы часам не памятаеце дзявочае прозвішча Ксеніі Кірылаўны? Ведаеце, яна з нашага раёна, з Драмлёва, якое спалілі фашысты. Там да вайны жылі некалькі Кірылаў, і кожны па ўзросце мог быць яе бацькам.

Жанчына вінавата паціснула плячыма:

— Не помню, а мо і не знала ніколі... Ксенія была вельмі працавітая жанчына, прыбірала ў пачатковай школе. А школа тая займала частку іх вялікай хаты, і танцы там ладзілі, і Новы год вучні сустракалі. А зараз людзі ўсе пастарэлі...

Магіла Васіля Мацкевіча



У пакоі, дзе ішла наша няспешная размова, знаходзіўся Андрэй Шыманскі, які займаўся сваёй звычайнай справай: фатаграфаваў, запісваў відэа, праглядаў старыя альбомы. Раптам ён літаральна ўварваўся ў наш дыялог:

— Выбачайце, а адкуль у вас гэты здымак?

На старым фота — горны вадаспад, а побач жанчына з вялікім сабакам.

— З Польшчы. Гэта цёця Яся, жонка дзядзькі Севы, а дзядзя Сева — брат маёй маці. Яны ў вайну пераехалі ў Зялёну Гуру, там і засталіся, — ахвотна адказала Галіна Сяргееўна. — На картачцы Яся на нейкім курорце.

— Та-а-ак? Нічога сабе, цуд нейкі! — прамовіў фатограф.

— Што, Андрэй? — умяшаўся я.

Ён зірнуў неяк па-дзівацку і махнуў рукою:

— Потым раскажу! Працягвайце размову.

## Пад грукат колаў

*(замест эпілога)*

Пад грукат вагонных колаў хацелася заснуць, але раптам, зірнуўшы на Шыманскага, успомніў:

— Андруха, што цябе гэтак зачапіла ў альбоме?

— Я ўжо бачыў раней тое фота. У часы СССР мы жылі ў Чалябінску. Тады была мода: піянеры ліставаліся з равеснікамі з «краін сацлагера», перапісвалася з польскай дзяўчынкай і мая сястра. Аднойчы замежная сяброўка прыслала здымак сваёй матулі — такі самы здымак! Уяві, дзе Чалябінск — дзе Клемянцінава, колькі ў Беларусі вёсак — колькі бабулек са старымі альбомамі ў іх жыве, нарэшце, як часы змяніліся... і раптам... Не, ты не паверыш у такую жыццёвую латарэю!


Галіна Сяргееўна Мацкевіч (Лялько)

Ну, чаму ж не паверу? Звычайная ўсмешка Бога...

Праз два тыдні стала вядома, якое прозвішча насіла Ксенія Кірылаўна, пакуль не пайшла замуж у Старое Клемянцінава. Дапамаглі супрацоўніцы Жабінкаўскага і Драгічынскага загсаў. Дзякуй ім за тое.

Драмлёўцаў палілі ў хлявах. У адным згарэлі Іван і Сцяпан Дзенісюкі, малодшыя браты Ксеніі. У другім — Іванава жонка Аўдоцця з дзецьмі Мішам і Верай. Наймалодшы пляменнік Ксеніі Кірылаўны пазбег агню, але не вады. Сведка трагедыі Міхаіл Сільвестравіч Іванюковіч расказваў: «Чатырохгадовага Сяргейку, сына Івана Дзенісюка, гітлераўцы кінулі ў калодзеж. Калі мы выцягнулі яго, доўга не маглі апамятацца...»

Пошук не завершаны. Пры нагодзе трэба наведацца ў вёску Чэрні Брэсцкага раёна, дзе ў брацкай магіле ляжыць той, хто вызваляў матуліну радзіму.

*Фота Андрэя ШЫМАНСКАГА*

# Спасибо прадеду за мир!




Анна и Игнат Селивоники

У каждой белорусской семьи свои счеты с войной. Когда речь идет о Великой Отечественной войне, на первое место обычно выходит ее героическая составляющая, а в тени остается значительная часть истории, которую можно условно назвать изнанкой, «войной изнутри». Тыл, жизнь на оккупированной территории, судьбы жен и детей. Таких граней войны очень много...

Селивоник Игнат Никитович родился в 1914 году в деревне Малые Радваничи. Женился как раз перед войной, на простой девушке из своей же деревни Белящук Анне Федоровне. Свадьбу сыграли 27 марта 1939 года. Жили они дружно, работали. 18 января 1941 года родилась их единственная дочь Ольга. Но вскоре мирная жизнь оборвалась. Война. В 1944 году Игната забрали на фронт. Только и запомнила маленькая Оля, как отец нес ее на руках до призывного пункта. Служил он рядовым, стрелком 79-й сд. Больше родные его никогда не видели, погиб он 27 марта 1945 года в Германии. Похоронен Игнат в деревне Альтревно. А в Малых Радваничах остались жена с



Ольга Романович с дочерью

Свадьба, 1939 г.



Свадьба дочери Ольги



Ольга с детьми





Ольга Романович с подругой



Анна Федоровна Селивоник с родичами



Правнучка Наталья с мужем

дочкой. Вдовы и дети войны знали страх, холод и голод, видели, как гибли солдаты и мирные люди, взрослые и дети.

Через многое прошла солдатская вдова, трудно пришлось одной с дочкой на руках. Работала в колхозе простой дояркой, помогала и на поле, и в колхозной столовой. А дочка выросла и тоже стала оператором машинного доения. За долголетний добросовестный труд в 1984 году награждена медалью «Ветеран труда». Вышла замуж, родила четверых детей. Все имеют свои семьи, детей и внуков. Всего у деда Игната и бабы Анны 4 внука, 8 правнуков и 8 праправнуков.

Время превращает прошлое в цифры и даты, и с этим ничего не поделаешь. Так всегда было и будет. Но все равно память жива: в рассказах, в пожелтевших фотографиях. Мы, потомки Игната Никитовича, очень рады, что являемся праправнуками такого героического воина. Мы гордимся им и всегда помним. Ведь, если память жива — живы и герои.

***РОМАНОВИЧ Мария Валентиновна,***
***библиотекарь Радваничской СБ***

Баба Нюра с правнучкой    Романович Ольга Игнатьевна



Праправнуки Саша и Дима



# Ліст да мамы

— Добры дзень, мая любая мама!

...Але так сталася, што маёй мамы даўно няма на гэтым свеце, і вось які ўжо час я жыву круглай сіратою...

Яна ж часам прыходзіць да мяне ў сны... І пабачыўшы яе, я па-дзіцячаму радуюся гэтай нашай сустрэчы. Цэлы дзень магу хадзіць пад уражаннем убачанага аблічча матулі. Тады, нібы кінастужка, усплывае былая мінуўшчына, у якой побач са мною жыла мая мама...

Успамінаецца яе шчырая усмешка... У той момант матульчын твар свяціўся дабрынёю, а вочы ззялі агнямі радасці...

Вось і зараз яна ўспомнілася мне ў момант нашага развітання на пероне Берасцейскага чыгуначнага вакзала, калі я ад'язжала на працу ў Рыгу.

Чамадан быў ужо на маім месцы ў вагоне, а мы з матуляй стаялі і гаманілі на пероне. Да адыходу цягніка было яшчэ паўгадзіны. Маці глядзела на мяне і ўсміхалася. Потым абняла, прыціснула да грудзей і сказала:

— Памятай! Штоб ні здарылася, а ты, хоць пехатою, а ідзі дадому... — і пры гэтых словах яе голас задрыжаў, а вочы апусціліся долу.

У той момант мне было добра зразумелым яе хваляванне...

Бо калісьці ў 1940 годзе, калі ёй было ўсяго 15 гадоў, яна вось так ад'язжала з Берасця са старэйшым братам у Маскву. Ад'язжала на адзін год, а вярнулася толькі ў жніўні 1944, пасля таго, як ад фашыстаў была вызвалена яе Берасцейшчына.

Усе ваенныя гады дома ніхто нічога не чуў і не ведаў пра маю маму. Нават бабуля, яе маці, і тая часам пачынала верыць у тое, што яе дачушка згінула...

Сапраўды! А чаго толькі маёй матулькі-падлетку не прыйшлося ўбачыць



Печко Марыя Емельянаўна, здымак 1943 г.

і перажыць у чужым краі?! І холад, і голад... Прыйшлося дыталёва спазнаць і беспрытульнасць...

Часам яна расказвала пра тое, як сытыя гітлераўцы ў снежні 1941 года сталі ля сцен Масквы і ўжо ў біноклі разглядвалі стольны Крэмль і Чырвоную плошчу...

Расію ў той момант магло выратаваць толькі цуда!

Усе ўцалелыя маскоўскія царквы днём і ноччу званілі без перапынку ў званы. Людзі маліліся да Бога аб абароне горада ад ворага. Народ ахвяраваў на дапамогу дзяржаве ўсё, што мог.

І выратаванне прыйшло! Бог-такі пачуў гук званоў і малітву рускага народа!

Нечакана ўпаў мароз пад мінус — 45. Люты і страшэнны, ён прастаяў аж два тыдні. У тыя дні птушкі замярзалі на ляту і каменнем падалі з неба. Ад холаду курчылася і дранцвела чалавечае цела, нямелі ногі...

Але ў выніку ўся гітлераўская армія вымерзла пад Масквою!

А калі маразы спалі, то рускія рушылі ў паспяховае наступленне і паступова, з крывавымі баямі, дайшлі да Берліна.

Дзе толькі не прыйшлося працаваць маёй матулі ў час вайны, каб зарабляць на хлеб?! Падлетка з заходняй Беларусі нідзе на працу не бралі. Прынялі толькі ў шкодны для здароўя цэх на ваенным заводзе, дзе маці разлівала траціл у формы гранат і снарадаў. За такую працу там давалі шклянку малака і норму хлеба, як для салдата на фронце. Аднойчы, у час працоўнай змены, яна страціла прытомнасць. Калі адкрыла вочы, то ўрач, які схіліўся над ёю, запытаў:

— Дзіця! А што цябе заставіла тут працаваць?!

— Голад і вайна... — адказала матуля.

Але сапраўдная бяда ў яе пачалася тады, калі варожыя дыверсанты ўзарвалі завод, і яна, атрымаўшы разлік, засталася зусім без працы, а значыць і без хлеба. Менавіта гэта вымусіла яе пакінуць Маскву і выехаць на Стаўраполле, а адтуль за Перавал у Грузію. А потым было цяжкае вяртанне назад... Адно лета ёй давялося працаваць і на калгасным трактарным стане.

Калі ж маці пачула па радыё, што вызвалена Берасцейшчына, то адразу стала збірацца дадому.



З племянікамі

Прыехала... А тут яе сустрэла апусцелая хата...

Бацька загінуў у першы дзень вайны... Старэйшы брат быў мабілізаваны ў Савецкую армію, але дадому так і не вярнуўся. Прапаў без звесткі... У хаце засталіся толькі маці і нявестка з двума малымі дзецьмі... І ні воднага мужыка!

У гаспадарцы не было, нават, каня... Таму ўвесь цяжар мужчынскай працы валіўся на кволыя жаночыя плечы...

Адна за адною ляцелі хвіліны. У час развітання матуля стаяла са мною на пероне і расказвала пра сваё цяжкае блуканне па пакутах далёка ад роднага краю. Але неўзабаве настаў час і па рэпрадуктару аб'явілі адпраўку майго цягніка.

— Дачушка! Што б ні здарылася, хоць пехатою, але ты вяртайся на радзіму... — паўтарыла свой наказ мама і зноўку прыгарнула мяне да грудзей...



Маці (Печко М. Е.) з дачкой Валянцінай

Успамінаючы вышэй сказанае, я нібы пішу ліст да мамы, у якім звяртаюся зноўку і зноўку да яе, як да жывой:

— Матулечка! Мая родная матулька! Каб ты толькі ведала, як мне цябе не хапае?! Не хапае тваёй ласкі, тваіх парад і тваёй дабрыні... Усе багацці свету, усё нажытое я бы аддала за тое, каб толькі ты жыла побач са мною...

Але не!.. Адтуль не вяртаюцца... Адтуль не прыходзяць назад... Хіба толькі ў сне, ці вясёлкаю пасля дажджу, а мо бліскавіцаю ў час грому.

— Матулечка!

У сонечны дзень я заўжды гляджу на белыя пухнатыя воблакі ў блакітным небе і мару, што ты праплываеш на самым прыгожым з іх і пазіраеш на зямлю. А значыць бачыш і мяне... І тут зноўку прыходзіць новы ўспамін:

— Матулька! А якой ты была завадаткай?!

У 60-я гады ў радні адбываліся адны вяселлі ды хрысціны... І маі бацькі хадзілі на ўсе. Зразумела, бралі і мяне туды з сабою.

Уся радня сядзела за сталамі і спявала песні. Дык голас матулі гучаў званчэй за ўсіх!

Нажаль наша зямное жыццё пралятае імгненна.

Непрыкметна маці састарылася і стала бываць толькі дома. А мы ўсе разыходзіліся з хаты на працу, на вучобу, адным словам, хто-куды...

— Зачыняй дзверы і нікога не пускай. — гаварыла я ёй на адыходак. — Як вярнуся, то пагрукаю ў шыбу акна.

І адвячоркам на маё груканне яна адгукалася:

— Іду-іду...

Бывала, часам грукаю, а з хаты — цішыня... Тады ў сваёй нецярплівасці, я пачынала грукацець гучней:

— Мам! Ты там жывая, ці не?!



Печко Марыя Емельянаўна, 1980 г.

— А жывая-жывая! — адказвала яна мне і павольна ішла адчыняць дзверы...

Але аднойчы, раптоўна, маёй мамы не стала. Гэта здарылася на Івана Купалу. І адразу ж апусцела хата...

З той пары, колькі не грукай, колькі не кліч, а матуля больш ніколі не падыйдзе да акна і не спытае:

— Хто там?

Больш ніколі не адчыніць дзвярэй...

Зараз я часам хаджу ў царкву і падаю сваю родную на ўспамін. Малюся перад усімі Багамі, каб яны далі ёй малюсенькі куточак у раі. У час сваёй малітвы я веру ў тое, што мая мама чуе мяне, таму шапчу ёй словы прабачэння:

— Матулечка! Родная! Прабач мяне, калі ласка, за ўсё, што было не так...

Пройдзе час, і калісьці, ужо на «тым свеце», мы ж павінны абавязкова сустрэцца з табою...

*КАРПЕШ Валянціна Фёдараўна,*
*пенсіянерка, Чэрні Брэсцкага р-на*

*День работников культуры*

# «Все, что вы делаете, должно укреплять духовно-нравственные устои общества»

**В начале октября в РДК д. Черни состоялся праздник, посвященный Дню работников культуры. В уютном зале районного Дома культуры собрались руководители клубов, детских школ искусств, народных творческих коллективов, работники музеев и библиотек, артисты, музыканты, хореографы и участники художественной самодеятельности — словом, все те, кто вносит вклад в популяризацию белорусской культуры, ведет широкую культурно-просветительскую деятельность в районе, обогащает достояние Прибужья и сохраняет национальное наследие.**

Программу чествования светочей культуры Прибужья открыла выставка народного творчества. В фойе РДК внимание привлекали не только картины и связанные с любовью салфетки, но и изделия из дерева и глины.

Знакомство с экспозицией только предваряло основное действо в концертном зале. Пока зрители занимали свои места, на большом экране под звуки гимна аудитории транслировалась видеопрезентация, посвященная героям торжества.

Председатель Брестского райисполкома Владимир Сенчук приветствует работников культуры



После приветственных и поздравительных слов ведущей Натальи Мартынец на сцену был приглашен председатель районного исполнительного комитета Владимир Сенчук.

«Культура — это одна из главных опор белорусского государства. Именно на вас, работников культуры, возлагаются надежды по сохранению и приумножению богатого и самобытного культурного наследия нашей родной Беларуси. Многим кажется, что работать в сфере культуры легко и очень приятно, что вокруг всегда праздничная обстановка и никакой рутины. Но все, кто знают подобный труд изнутри, хорошо понимают, какое напряжение духовных и физических сил требуется для создания спектакля, постановки, концерта или какого-нибудь праздничного мероприятия. Сколько нужно приложить усилий, что-



Награды — лучшим

бы заинтересовать и получить внимание зрителя. Именно близость к людям разных возрастов возлагает государством на вас задачи по воспитанию граждан. Все, что вы делаете или будете делать, должно быть наполнено глубоким смыслом, должно нести большую нравственную силу, должно укреплять духовно-нравственные устои нашего общества. Мы все признательны за ваш нелегкий труд», — подчеркнул Владимир Григорьевич.

Почетные грамоты и цветы из рук главы района получили директор районного Дома культуры Алексей Леонов и директор Остромечевского сельского Дома культуры Людмила Мельник.

Почетную миссию продолжила председатель Брестского районного объединения профсоюзов Валентина Тимошук, которая отметила работу начальника отдела идеологической работы, культуры и по делам молодежи райисполкома Ларисы Балашовой и председателя районного комитета профсоюза работников культуры, информации, спорта и туризма Галины Крисановой и вручила им ценные подарки.

Грамотами за высокие творческие достижения в работе и в связи с профессиональным праздником отметили хормейстера народного коллектива «Черничанка» Ольгу Варганову, художественного руководителя Тельмовского сельского Дома культуры Надежду Брещук, художественного руководителя Сковского сельского Дома культуры Ирину Биленко, директора районного Дома ремесел Татьяну Лукьянюк, художественного руководителя Чернавчицкого сельского Дома культуры Светлану Ильину, библиотекаря Мухавецкой сельской библиотеки Галину Вольскую, инженера-строителя хозяйственной группы отдела идеологической работы, культуры и по делам молодежи Игоря Лешкевича, библиотекаря Медновской сельской библиотеки Валентину Степанюк, главного хранителя историко-мемориального

Фрагмент праздничного концерта, организованного силами работников Чернавчицкого СДК





В концертном зале Чернинского РДК

музея «Усадьба Немцевичей» Екатерину Огиевич.

Благодарностью начальника главного управления идеологической работы, культуры и по делам молодежи областного исполнительного комитета награжден директор историко-мемориального музея «Усадьба Немцевичей» Сергей Семенюк.

Дипломом первой степени отмечен мужской народный вокальный ансамбль «Благовест» Чернавчицкого сельского Дома культуры. Диплом третьей степени получил народный ансамбль песни «Славия» Мухавецкого сельского Дома культуры.

Памятный сувенир по случаю юбилея получила директор Остромечевского сельского Дома культуры Людмила Мельник.

«Дорогие работники культуры, спасибо вам огромное за ваши ночи, за ваши праздники, за ваши будни и вечера. Это благодаря вам, вашему труду и таланту сегодня наш район на высоте. Пусть чаще вам сопутствуют удача, благополучие, радость открытий и творчества, пусть не покидает вас сердечная доброта, а любовь и признание людей станут постоянными спутниками в жизни. Пусть творческие свершения приносят вам только радость и моральное удовлетворение», — в завершение церемонии награждения сказала Галина Крисанова.

Овациями встречали зрители каждого, кто поднимался на сцену за наградами. Они их заслужили преданностью и добросовестным отношением к своему делу, высоким профессионализмом и активной общественной работой.

Непосредственно концертная программа представляла собой набор тематических номеров-пародий на известные телевизионные программы, объединенные темой трудовой деятельности культработника. Оригинальный сценарий позволил всем собравшимся побывать на таких ток-шоу, как «Пусть говорят» на телеканале ОНТ и «Танцы» на ТНТ; принять непосредственное участие в программе «Экстрасенсы ведут расследование», где при помощи опытного телепата был найден пропавший работник культуры; вдоволь посмеяться над необычными выпусками «Наших новостей» и «Чрезвычайного происшествия». Яркое, стильное, смелое и даже немного дерзкое шоу стерло привычные границы между подмостками и зрительным залом.

В перерывах между номерами зрители могли насладиться вокальными и танцевальными способностями своих коллег. Не остались в стороне от поздравлений и молодые культработники, прибывшие на новое место работы по окончании вуза.

Завершающим аккордом праздничного мероприятия стали песня «Тост за нас» и праздничный фейерверк, во время которого, в знак благодарности выступающим, аудитория аплодировала стоя.

В зале было тепло и светло от искренних и открытых улыбок, сиявших на лицах зрителей.

*Павел БОГУШ,*
*фото автора*

# Гастролі на пачатку восені

**Верасень 2017-га стаў, напэўна, адным з самых запамінальных і адметных у творчых біяграфіях народнага ансамбля песні «Спадчына» і народнага ансамбля музыкі «Сябрына» Тэльмаўскага палаца культуры.**

Гэтыя калектывы здзейснілі незабыўную, вельмі насычаную і плённую паездку ў падмаскоўны горад Істра, слаўны не толькі сваім знакамітым на ўвесь свет Новаіерусалімскім храмам, але і вялікай любоўю мясцовых жыхароў да народнай песні і музыкі. Уявіце сабе, шаноўныя чытачы, што на ўнікальны фестываль самадзейных музыкаў-гарманістаў з'ехаліся фанатычна ўлюбёныя ў гармоніку прадстаўнікі з самых розных куточкаў Расіі — са сваімі інструментамі, уласнымі песнямі, гарачымі сэрцамі і выступалі перад мясцовымі гледачамі амаль чатыры гадзіны.

Калі ўпершыню выйшлі на сцэну ансамблі «Спадчына» і «Сябрына», глядзельная зала нясцярожліва змоўкла. Што на яе паўплывала болей — беларуская мова, на якой вядучы звярнуўся з невялікім уступна-прывітальным словам, ці незвычайнай прыгажосці касцюмы, а, магчыма, зразумелае трапяткое хваляванне аматараў-артыстаў, якія стараліся шчыра ўсміхацца і даверліва глядзець у вочы распешчанай публіцы?

Прагучаў першы песенны нумар. Звонкія зладжаныя галасы спевакоў на фоне прафесійнага музычнага суправаджэння разліліся чароўнымі гукамі па запоўненай да адказу людзьмі ўтульнай глядзельнай зале. На тварах здзіўленых расіян засвяціліся вочы, паявіліся шчырыя ўсмешкі і... Выбухнулі нястрымныя доўгія апладысменты, дапаўняемыя воклічамі «Брава! Малайцы!» Незаўважна паміж спевакамі і гледачамі ўстанавіўся такі цесны эмацыйна-псіхалагічны кантакт, што, здавалася, ва ўнісон забіліся іх сэрцы, з'ядналіся душы. Музыка, спевы, танцы, радасныя галасы з залы зліліся ў адзінае вялікае дзейства пад назвай «Мастацтва» — «Высокае мастацтва». Беларускія артысты ўсё болей і болей «заводзілі» публіку, пакуль тая не паднялася са сваіх месцаў і не пусцілася ў скокі на праходах, падпяваючы прыпевы і ў такт мелодыі пляскаючы ў далоні. Што рабілася!!! Не перадаць словамі. Авацыі! Нязмоўкныя клічы «Брава! Біс!»... Гэта было сапраўднае свята — свята не толькі музыкі і песні, але і свята душ, сэрцаў, адзінства братніх народаў.

«Нам было прыемна і шчасна, нам было ўтульна і добра. На сцэне мы жылі, у нас напоўніцу раскрыўся багаты творчы свет, мы здолелі паказаць гледачам, што такое палеская песня, наколькі багаты талент палешукоў, які непадробны адметны яго ўнутраны свет! І гледачы, было відавочна, не толькі зразумелі, але і адчулі гэта!» — сказаў па вяртанні дахаты кіраўнік народнага ансамбля «Спадчына» Уладзімір Літвінчук.

У берасцейцаў завязаліся цесныя стасункі з істраўцамі, кіраўніком творчага аб'яднання гарманістаў «Муравушка» Валерыем Болатавым, які з добрай ласкі запрасіў калектывы ў падмаскоўе і арганізаваў незабыўныя творчыя гастролі на пачатку восені.

*Уладзімір СЕНЬКАВЕЦ,*
*удзельнік ансамбля «Спадчына»*



«Спадчына» і «Сябрына» на расійскай сцэне

Прыбужскія артысты ў Новаіерасулійскім храме г. Істра



# За портрет Тадеуша Костюшко брестская художница получила диплом в Сиднее





Брестская художница Натали Шайон получила почетный диплом на международном творческом конкурсе, посвященном 200-летию со дня смерти Тадеуша Костюшко, национального героя Беларуси, Польши и США, почетного гражданина США и Франции.

Список победителей был объявлен членами жюри в Сиднее. За звание лучшего в трех категориях боролись таланты из разных уголков мира: Аргентины, Ливана, Армении, Польши, Австралии, Беларуси, Австрии, Бельгии, Болгарии, Канады, Индонезии, Ирландии, Японии, России, Тайваня, Украины, Великобритании и США. Брестчанка отметилась в номинации «Графика».



The International Kosciuszko Bicentenary Competition

Honorowy Dyplom Uznania

Natalia Bashuk

za udział w Międzynarodowym Konkursie

w hołdzie
TADEUSZOWI KOŚCIUSZCE
PRZYJACIELOWI LUDZKOŚCI

Head of the Jury Panel
Prof. Alex Storozynski

Sydney
3rd October 2017

Competition Coordinator
Dr Ernestyna Skurjat-Kozek

На своей картине художница изобразила прославленного уроженца нашей земли задумчивым и серьезным. Тадеуш о чем-то размышляет, сидя в кресле в библиотеке и зажимая книгу в руках. Работа написана в светлых тонах и вызывает ощущения тепла и уюта. Такая подача — отличительная черта творчества Натали Шайон.

*с сайта: www.zarya.by*

# *Музей Якуба Коласа в Пинковичах Пинского района*


Школа в Пинковичах, середина 1950-х годов

20 лет назад, 11 ноября 1990 года, в деревне Пинковичи Пинского района в здании бывшей школы, где в 1904–1906 годах работал учителем Якуб Колас, был открыт литературно-этнографический музей его имени. В музее сохраняются записи выступлений Якуба Коласа и его брата Иосифа Мицкевича, а также воспоминания о писателе жителей Пинкович. Экспозиция музея размещается в вестибюле и четырех залах.

В вестибюле находится бюст классика белорусской литературы, народного поэта Беларуси Якуба Коласа, который был подарен Литературно-мемориальным музеем Якуба Коласа, а на стенах вестибюля находятся десять цветных слайдов с пейзажами Пинковичей.

В Литературно-этнографическом музее Якуба Коласа организуются коласовские чтения, проходят конкурсы, выставки и беседы. Также в музее представлена экспозиция «Пинковичи сегодня», которая посвящена деревне и ее жителям. Здесь представлены материалы о современном состоянии деревни, деятельности районного Центра внешкольной работы, что находится в Пинковичах.

Музей Я. Коласа в д. Пинковичи, окутанный духом белорусского крестьянского быта, привлекает туристов, дает возможность соприкоснуться с историей жизни величайшего белорусского писателя.









